# Юбілейныя карткі РО «БЕЛТЭЛЕКОМ»

*Алег Сырамятнікаў,
рэдактар газеты
«Пецярбургскі калекцыянер»*

*У гэтым годзе беларускай дзяржаўнай тэлекамунікацыйнай кампаніі РО «БЕЛТЭЛЕКОМ» спаўняецца 5 год. У сувязі з гэтай падзеяй у жнiўне 2000 года была выраблена юбілейная аднаразовая картка на 120 адзінак. Нагадаем, што да нядаўняга часу ў Рэспубліцы Беларусь тэлефонныя карткі былі шматразовыя – гэта, калі картка мела залогавы кошт і пасля карыстання здавалася на перезарадку.*

Беларускія тэлефонныя карткі не адрозніваюцца разнастайнасцю па дызайну, друкуюцца па старачаснаму, тэлеграфічаскім спосабам. Усё гэта прыводзіць да дрэннага стана картак і практычна не калекцыйнаму выгляду. Магчыма, з гэтым звязана вельмі нізкая цікавасць да телэфонных картак Беларусі сярод калекцыянераў усяго свету. На адным баку юбілейнай карткі выяўлены дыск тэлефона з надпісам – "5 лет", а таксама даты 1995-2000. Выяўленні – ружовага колеру. Маюць некалькі разнастайнасцей па ступені насычанасці і розным адцiскам ружовага колеру. Другая старонка карткі мае разнастайнасць па тэксту. На кожнай картке зверху стаіць надпіс: "INTERNET – клубы РО "БЕЛТЭЛЕКОМ", і далей на сямі розных гарадах Рэспублікі Беларусь:

*1 картка – у г.Менске*
*2 картка – у Менскай вобласці*
*3 картка – у Брэсцкай вобласці*
*4 картка – у Віцебскай вобласці*
*5 картка – у Магілёўскай вобласці*
*6 картка – у Гомельскай вобласці*
*7 картка – у Гродзенскай вобласці*

Пры гэтым карткі ў Віцебскай і Магілёўскай вобласцях не маюць гарызантальнай рысы перад надпісам "изготовлено 08.2000", як гэта зроблена на іншых картках.

Усе юбілейныя карткі зроблены на заводзе «Інтэграл» (г.Менск) і з'явіліся ў продажы.










Юбілейны канверт да 500-годдзя г.Браслава




Фірменны канверт Аршанскай маладзёвай арганізацыі «РША»

*У 1915 годзе Навагрaдак выпускаў свае грошы. Хачу знайсці іх, ці хаця бы ксэракопіі. Можа, хто дашле звесткі пра гэта. Збіраю таксама даваенныя жэтоны, ці інфармацыю пра іх, розных установ на тэрыторыі Беларусі.*

***Можна пісаць на адрас: Паўловіч Мікалай, г.Браслаў, музей, 211970 ці на хатні адрас: Paulovics Nikolaijs Rezeknes 7-6 Daugaupils-21 LV-5421 Latvija***

*Шукаю маркіраваныя карткі і канверты Літвы (1924 - 1941), Цэнтральнай Літвы, Мемеля, Обер-оста, Польшчы (толькі з відарысамі г.Вільні) і паштовыя адпраўленні з Літвы да 1950 г. Патрэбна літаратура пра пошту: поўныя спісы паштовых установ, маршруты паштовых вагонаў, розныя "Правілы" і іншн.*

***Ricardas Vainora p. dez. 750***
***LT-3036 KAUNAS-36***
***LIETUVA Літва***

*Калекцыяніраую піўныя этыкеткі Беларусі*

***Адрас: Сцепанюк Мікалай, а/с – 55, г.Гродна-5, 230005***

Газета «Беларускі калекцыянер. Выдаецца з 1990. Рэдактар: Алесь Сярожкін. Рэдакцыйная калегія: Юры Санько, Алег Граблеўскі, Віктар Астрога. Вёрстка Алены Мiначкiнай.

Пры перадруку спасылацца на «Беларускі Калекцыянер». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Газета выдаецца пры дапамозе Цэнтра Філона Кліты.

Падпісана ў друк 15.04.2001г.

Адрас для допісаў: Сярожкін А.М. 211030, Орша-9, п/с 46, Беларусь. Наклад 299 асобнікаў.

На першай старонцы змешчана паштоўка з выявай абраза Маці Божай ахвярай Чарнобыля. 1990 год. Мастак Аляксей Марачкін




Накладам 200 асобнікаў, у Смаленску, выйшаў першы нумар часопіса “Коллекция”. Рэдакцыя часопіса мае намер асвятляць усе галіны і накірункі калекцыянавання і не абмяжоўваць сябе рамкамі Смаленскай вобласці. Першы нумар часопіса складаецца з такіх раздзелаў, як філатэлія, нумізматыка, фалерыстыка, бірафілія, прэсафілія, гісторыя і прыватныя абвесткі. Рэдактарам часопіса “Коллекция” з'яўляецца вядомы смаленскі калекцыянер Леанід Сцепчанкаў. У Смаленску адзін асобнік часопіса каштуе 13 расейскіх рублёў. Адрас рэдакцыі: 214000, г.Смаленск, г/п, а/я 124.

Мяркуецца, што беларускія калекцыянеры зацікавяцца гэтым выданнем, бо Смаленшчына, як этнічная частка Беларусі, заўжды вабіла да сябе нашых гісторыкаў і краязнаўцаў. Каб лепш зразумець сённяшнюю Беларусь, трэба лепш ведаць гісторыю нашых зямель, якія мы калісьці страцілі.